ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 7-й старонцы

*Свабода, роўнасць, братэрства!*



# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● Заснавана ў 1991 годзе ● № 10-11 (66-67) ● Пятніца, 10 верасня 1999 г. ● У розніцу кошт 30000 руб.

## НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

### КОЛЬКІ СЯЛЯНАМ ЗА БУЛЬБУ?

Райспажыўсаюзы пачынаюць нарыхтоўку бульбы ў насельніцтва. Чакаецца, што ў залежнасці ад рэгіёнаў закупачная цана кілаграма гэтага харчу будзе вагацца ад 40 да 60 тысяч рублёў. Па словах начальніка упраўлення нарыхтовак Белспажыўсаюза Аляксандра Манцулевіча спачатку планавалася закупляць бульбу прыкладна па 70-80 тыс. руб. за кг, але ў такім разе ў гандлёвай сетцы яна будзе каштаваць па 130-140 тысяч. Вось так цэніцца рабская праца селяніна. Нарыхтаваць і прадаць бульбу, аказваецца, ураўноўваецца з яе вытворчасцю! Дык ці не лепш селяніну напрамую прадаць плады сваёй працы гараджаніну па 80 тыс. руб. за кілаграм. І прадавец, і пакупнік тады будуць у выйгрышы.

**Наш кар.**

### КУРС ДОЛАРА ЗНОЎ СКОКНУЎ УВЕРХ

Апошнім часам курс долара ў розных гарадах і райцэнтрах на чорным рынку дасягнуў 500-520 тысяч рублёў. Бывалыя валютчыкі прагназуюць, што праз тыдні дватры ён дасягне 600 тысяч рублёў за адзін долар.

**Наш кар.**

### У БЕЛАРУСІ БУДЗЕ СВАЯ "ВОЛГА"

Зборку беларускіх аўтамабіляў "ГАЗ-3110 Волга" павінны пачаць у прамысловай зоне "Калядзічы" пад Мінскам. Спачатку —беларуска-расійскія "Волгі" будуць збіраць з расійскіх камплектуючых, але потым запланаваны паступовы пераход на беларускія дэталі. Першыя аўтамабілі сыйдуць з канвеера ўжо да канца гэтага года. Мяркуецца, што айчынная "Волга" будзе каштаваць недзе 2,3 мільярда беларускіх рублёў.

### ГАРНЯКІ ПАТРАБУЮЦЬ АДМЕНЫ ДЭКРЭТА

У Салігорску нядаўна адбылася канферэнцыя галіновага прафсаюза хімікаў "Беларуськалія". Выступоўцы, старшыня прафкама СПБ Зінаіда Міхневіч, намеснік старшыні СПБ Мікалай Піваноўскі і яшчэ чалавек 20 інжынераў, майстроў і рабочых "Беларуськалія" з трыбуны канферэнцыі выказвалі не толькі тое, што дэкрэт аб дадатковых заходах па ўдасканаленні працоўных адносінаў, умацаванні працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны не адпавядае Канстытуцыі Беларусі і патрабаванням міжнароднай арганізацыі працы, а было падкрэслена, што Аляксандр Лукашэнка такім чынам па сутнасці, ліквідуе самую галоўную прафсаюзную функцыю: абарону наёмных работнікаў ад сваволля наймальнікаў ды розных кшталтаў чыноўнікаў. І ўрэшце-рэшт пераўтварае працоўнае людства ў рабоў, бо ў сённяшніх сацыяльных рэчаіснасцях краіны кантрактная сістэма, запрапанаваная дэкрэтам, з'яўляецца моцным сродкам запалохвання работнікаў.

Выконваючы абавязкі генеральнага дырэктара "Беларуськалія" Лазар Тапчын, які спрабаваў заступіцца за дэкрэт, быў абсвістаны і падвергнуты рэзкай крытыцы дэлегатаў.

У пастанове, якую аднагалосна прыняла канферэнцыя, прысутныя 603 дэлегаты катэгарычна запатрабавалі ад Аляксандра Лукашэнкі і яго нага парламенту адмены дэкрэта № 29 як антынароднага, ад беларускай тэлевізіі — эфірнага часу для выступлення прадстаўнікоў СПБ да 10 верасня, ад Салігорскага гарвыканкаму — дазволу на правядзенне мітынгу 8 верасня на цэнтральным пляцы горада.

Нез'яўленне на канферэнцыі спадароў Лукашэнкі і Лінга, якія сюды былі своечасова запрошаныя, аўтарытэтны сход расцаніў як непавагу да шматтысячнага гарняцкага калектыву.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**г. Салігорск.**

### НОВАЕ АПАЗІЦЫЙНАЕ ЎТВАРЭННЕ

У Беларусі створана аб'яднанне палітыкаў "новага пакалення". Яно не мае ніякай назвы. Нядаўна адбылася сустрэча, на якой прысутнічалі лідэр Народнай грамады Мікола Статкевіч, намеснік стышыні АГП Анатоль Лябедзька і сябра гэтай партыі Данейка, намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка, сябра гэтай партыі, кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна-96" Алесь Бяляцкі, віцэ-прэзідэнт канфедэрацыі дэмакратычных прафсаюзаў Віктар Івашкевіч, а таксама сябра аргкамітэту "Хартыя-97" Зміцер Бандарэнка ды іншыя вядомыя палітыкі. На сустрэчу дэманстратыўна не быў запрошаны Віктар Ганчар.

Палітыкаў "папярэдняга" пакалення наогул на сустрэчы не было, а сама акцыя сустрэчы павінна была зафіксаваць момант, калі палітыкі "новага беларускага пакалення" гучна заявілі пра свае амбіцыі.

Ніякіх дакументаў аб выніках дамоўленасцяў на сустрэчы, што адбылася, падпісана не было. Бакі дамовіліся каардынаваць свае дзеянні пад час восеньскай палітычнай кампаніі. Як заявілі прысутныя апазіцыянеры, дыктатарскі рэжым прымае толькі сілу, а не мову перамоваў. І таму 100-тысячная дэманстрацыя 17 кастрычніка павінна засведчыць моц апазіцыі і стаць чыннікам узьдеяння на Лукашэнку на перамоўным працэсе.

Вінцук Вячорка сказаў пра новае апазіцыйнае ўтварэнне:

— Гэта — аб'яднанне ў дзеянні. Гэта каардынацыя нашых дзеянняў дзеля таго, каб на Беларусі хутчэй наступіла дэмакратыя і каб наша незалежнасць была гарантавана.

Нагадаю, што за 5 гадоў кіравання аляксандра Лукашэнкі, спробы аб'ядналь беларускую апазіцыю ператварыліся ў перманентны працэс. Віктар Івашкевіч упэўнены, што чарговая спроба будзе больш паспяховай.

Дамаўляліся палітыкі "новага пакалення" не ў Мінску, а на прыватным Лецішчы ў Астрашыцкім Гарадку, што ў 40 кіламетрах ад Беларускай сталіцы.

Акцыя рыхтавалася ў абстаноўцы сакрэтнасці.

**Юрась КАРМАНАЎ.**
**Астрашыцкі Гарадок.**

### ПРАЦЭС РАСПАДУ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Улады Абхазіі прызначылі на 3 кастрычніка рэферэндум наконт незалежнасці.

***

Прыхільнікі мэра Чаркеска, сталіцы Карачаева-Чаркескай рэспублікі, абвясцілі аўтаномію Чаркессіі і пастанавілі сфармаваць уласны ўрад.

***

У Дагестане працягваецца кровепраліцце, як і 200 гадоў раней. Гінуць па загаду моцных і застаюцца калекамі нявінныя расійскія вайскоўцы і каўказскія паўстанцы за сваю волю і незалежнасць.

### ПАДЗЯКА ЗА ПЛЁННУЮ ПРАЦУ

Прэзідэнт Лукашэнка аб'явіў падзяку старшыні Мінскага аблвыканкама Мікалаю Дамашкевічу. Яна вынесена за шматгадовую працу ў органах дзяржаўнага кіравання і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння.



Рэзакі.

Фота В. БЫСАВА

## АБ'ЯВЫ

***Ідзе падпіска на газету "Беларускі Усход" на IV квартал 1999 года.***

***Нягледзячы на рост цэн на расходныя матэрыялы і падаражанне розных паслуг (сувязь, электразабеспячэнне і інш.), стратнасць газеты, калектыў рэдакцыі, ведаючы, што нашу газету па існуючым кошце ў стане выпісаць самыя малазабяспечаныя чытачы, прыняў рашэнне не павышаць падпісны кошт.***

***Ён па ранейшаму застаецца самым танным у рэспубліцы Беларусь:***

***На 1 месяц — 32000 рублёў (паўбохана хлеба).***

***На 2 месяцы — 64000 руб. (адзін батон).***

***На 3 месяцы — 96000 руб. (больш чым у 9 разоў танней за падпісны кошт на раўнныя газеты).***

***А калі Вы пажадаеце атрымліваць газету праз абаненецкую скрыню у аддзяленні сувязі, падпісны кошт на квартал і таго меншы — 90000 рублёў.***

***Спяшайцеся на пошту і выпісвайце "Беларускі Усход"! Да канца падпіскі на IV квартал застаецца ўсяго якіх два тыдні!***

***А калі у Вас не хапае грошай выпісаць газету на квартал, выпісвайце на месяц ці два. Потым прадоўжыце падпіску, бо яна прымаецца з любога наступнага месяца да 25 чысла.***

***

Рэдакцыя газеты "Беларускі Усход" прымае заказы на размяшчэнне рэкламы, аб'яў і іншай інфармацыі па самых нізкіх у Беларусі расцэнках:

**Аб'явы фізічных асоб.**

1. Па купонах, выразаных з газеты — бясплатна, любы тэкст (але не больш 1 купона ад 1 асобы).
2. Аб пошуках работы — бясплатна.
3. Аб страце дакументаў — 100 тыс. рублёў.
4. Іншыя (ў залежнасці ад займаемай газетнай плошчы):

— да 5 кв. сантыметраў 200 тыс. рублёў;
— да 7,5 кв. -"- 300 тыс. рублёў;
— да 10 кв. -"- 400 тыс. рублёў;
— да 12,5 кв. -"- 500 тыс. рублёў;
— аб знаёмстве з указаннем адваротнага адрасу — 200 тыс. руб.;
— аб знаёмстве без укзання адваротнага адрасу — 220 тыс. руб.

5. Віншаванне, удзячнасць, спачуванне — 200 тыс. рублёў.

**Для юрыдычных асоб.**

1. Рэклама па прадстаўленаму тэксту (рублёў за 1 кв. сантыметр газетнай плошчы);

— на першай старонцы — 60 тыс. рублёў;
— на ўнутраных старонках — 40 тыс. рублёў;
— на апошняй старонцы - 50 тыс. рублёў.

Рэклама ў выглядзе разгорнутых журналісцкіх матэрыялаў — 30% ад указаных расцэнак.

2. Аб'явы — за 1 кв. сантыметр газетнай плошчы — 50 тыс. руб.
3. Спачуванне, віншаванне, удзячнасць — 250 тыс. руб.

**Скідкі для заказчыкаў:**

— за паўтарэнне заказа ў наступным нумары — 20%;
— за паўтарэнне ў трэці раз — 50%.

Аплата паслуг рэкламных агентаў і гаенцтваў (ад кошту арганізаванай паслугі):

— разавая паслуга — 15%,
— сталае супрацоўніцтва з прадастаўленнем арыгінал-макета —25%,
— аплата заказаў — папярэдняя.

**За даведкамі звяртацца па тэлефонах у Хоцімску: 22-9-89, 22-00-9, 24-4-66.**

**Рэдакцыя.**

● *АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАРЫЙ*

# КРЫТЫКАЙ КІРАЎНІЦТВА І НАГНЯТАННЕМ НЕПРУЖАНАСЦІ Ў ГРАМАДСТВЕ АЎТАРЫТЭТ У КРАІНЕ НЕ ЗАРОБІШ

Імкненне кіраўніцтва краіны самыя сур'ёзныя пачынанні звяраць з думкай народа ўсё часцей знаходзіць разуменне ў розных грамадскіх арганізацый рэспублікі. Так было з абмеркаваннем праектаў дэкрэтаў кіраўніка дзяржавы, нарматыўных актаў па ўдасканаленню выбарчай сістэмы. А дыялог, які пачаўся ў краіне адносна змястоўнага напаўнення заходняга знешнепалітычнага вектара, прыўнёс некаторую спецыфіку ў працэс, які намеціўся. Своеасаблівай першай ластаўкай настолькі незвычайнага для нас пачынання стаў "круглы стол" па гэтай праблеме, які прайшоў з удзелам прадстаўнікоў дзяржаўных структур, апазіцыі, вядучых супрацоўнікаў навукова-даследчых цэнтраў, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый Беларусі.

Нягледзячы на значныя разыходжанні адносна шляхоў пашырэння дыялога з дзяржавамі Захаду, удзельнікі мерапрыемства былі адзіныя ў галоўным — неабходна выпраўляць сітуацыю, якая склалася. Вядома, не варта было чакаць, што метады дасягнення жаданага ўсім бачацца адны і тыя ж. Але важна тое, што часам пры дыяметральна процілеглых меркаваннях грамадства ў цэлым гатова да больш цеснай інтэграцыі з заходнімі дзяржавамі, але без урону для адносінаў з бліжэйшымі суседзямі.

Праводзячы аналіз прычын некаторай ізаляцыі дзяржавы, прадстаўнікі апазіцыі часта спісваюць усе грахі на кіраўніцтва краіны. Пры гэтым прыводзяць як прыклад шэраг ініцыятыў па стварэнню розных міждзяржаўных аб'яднанняў і кансалідацыі існуючых фарміраванняў, якія не мелі і не маюць належнага поспеху. Але, як вядома, з-за шэрагу аб'ектыўных прычын не заўсёды атрымліваецца рэалізаваць намечанае ў той меры, у якой гэта прадугледжвалася першапачаткова. Да таго ж вопыт дзяржаўнасці ў Беларусі не настолькі вялікі, каб ініцыятывы, якія вылучаюцца, "на ўра" ўспрымаліся сусветным супольніцтвам. Рэальна ацаніўшы магчымасці дзяржавы, кіраўніцтва прыйшло да высновы, што для таго, каб нас пачулі і да нас прыслухаліся, неабходна спачатку навесці парадак ва ўласным доме: стабілізаваць эканоміку, дабіцца яе росту. Пасля гэтага весці панапраўны дыялог з дзяржавамі свету. Думаецца, што гэта тактыка ў хуткім часе прынясе свае вынікі.

Даволі часта апазіцыя заяўляе, што многія праблемы маглі б быць вырашаны, калі б у краіне існаваў спрыяльны інвестыцыйны клімат. Дзякуючы замежным капіталаўкладанням эканоміка выйшла б на больш высокі ўзровень, і прадукцыя беларускіх прадпрыемстваў стала б больш канкурэнтаздольнай. Але, па-першае, і з гэтым вымушаны пагадзіцца самыя заўзятыя скептыкі, многія тавары, што выпрацоўваюцца ў Беларусі, ужо цяпер могуць дастойна канкураваць са сваімі замежнымі аналагамі на міжнародным рынку. Іншая справа, ці пускаюць іх туды. А па-другое, усе крэдыты некалі трэба вяртаць. І з працэнтамі. У цяперашнім становішчы гэта прывяло б да яшчэ большага росту знешняй запазычанасці краіны. Ды і сусветная практыка паказвае, што далёка не заўсёды знешнее крэдытаванне здольна вывесці дзяржаву ў лік сусветных лідэраў. Самі лідэры ў гэтым не зацікаўлены.

Вядома, рэаліі сённяшняга дня прымушаюць задумацца адносна развіцця больш цесных адносінаў з Захадам. Але гэта ні ў якім разе не будзе вуліца з аднабаковым рухам. Дыялог павінен быць і будзе, але толькі на аснове ўзаемнай павагі і ўліку інтарэсаў абодвух бакоў. Напэўна, пераломнай падзеяй у працэсе ўмацавання адносінаў з заходнімі краінамі будуць наступныя парламенцкія і прэзідэнцкія выбары. Каб зняць усе пытанні адносна дэмакратычнасці іх правядзення, і было прынята рашэнне аб папярэднім абмеркаванні новага Выбарчага кодэкса. Менавіта гэты дакумент прызначаны стаць прававой асновай надыходзячых выбарчых марафонаў. Пасля прыняцця праекта будзе позна гаварыць аб недэмакратычнасці выбарчай сістэмы тым, хто не прыняў удзел у яе фарміраванні. Што ж датычыць саставу будучага парламента, то ён цалкам будзе залежыць ад жадання народа бачыць на адпаведнай пасадзе самага дастойнага.

Рознасць у меркаваннях адносна месца Беларусі ў сучасным свеце наўрад ці прывядзе да змянення гэтага самага месца. Геаграфічна наша маладая дзяржава ўжо замацавалася. Што ж датычыць палітычнага становішча рэспублікі ў сусветным супольніцтве, то яго нельга палепшыць шляхам бяздумнай крытыкі ў адрас яе кіраўніцтва і нагнятаннем напружанасці ў грамадстве. Толькі канструктыўны дыялог з прыцягненнем усіх зацікаўленых структур можа стаць зыходным пунктам у працэсе ўмацавання міжнароднага аўтарытэту нашай краіны.

**БЕЛТА.**

● *МЫСЛИ ВСЛУХ*

# ПОУБАВЬТЕ КОНТРАСТОВ!

Удивляются, цокая языками при столкновении с реалиями белорусской жизни, не только иностранцы. Не устаем каждый день удивляться этой самой жизни и мы, казалось бы, видавшие виды аборигены. А все почему? Да потому что живем не просто в стране, а в Стране Контрастов. Как это раньше лекции про загнивающий Запад назывались? "Нью-Йорк — город контрастов?" Теперь наш черед быть "контрастными" и рассуждать о противоречиях и парадоксах окружающей действительности. А загадки всевозможные у нас на каждом шагу! Одна из самых непостижимых: белорусы, как и другие народы мира, имеют свой, причем достаточно богатый и мелодичный язык, но разговаривать на нем в подавляющем своем большинстве не могут, не умеют, не хотят, стыдятся... Но это, так сказать, из духовной сферы, а время сейчас тяжелое, все больше о кошельке думается, о желудке... Но и в этой области одни контрасты да парадоксы. Белорусы обладают миллионами, но купить на них ничего не могут. И чем больше миллионов, тем меньше покупательная способность здешнего люда. Да и покупать что? В республике производится много сортов сыра, колбас, хлеба, пива, но найти все эти сотни образцов достижений народного хозяйства можно, лишь основательно изъездив десятки, даже сотни торговых точек земли белорусской. В бывших республиках СССР нас называют "бульбашами", но урожайность картофеля год от года падает. У нас самое дешевое молоко, но можно ли назвать эту белую жидкость молоком? В Беларуси вроде бы нет социализма, но где тогда капитализм? Магазины, что появились на заре рынка, разоряются, продавцы снова забывают об элементарной вежливости... Да, в универмагах вновь открываются отделы, продающие товары только за СКВ, но разве купишь эту самую СКВ законным путем? По количеству банков за счет филиальной сети Сбербанка "Беларусбанк" мы обогнали даже швейцарию, но давайте посмотрим, сколько в тех "сберкассах" денег... Кстати, о Швейцарии. Наша природа не хуже тамошней, но ехать к нам отдыхать никто не торопится. Разве что чудаки — любители экстремального отдыха — запасаются дозиметрами и едут. Ну а у нас, уже тринадцать лет сожительствующих с радиацией (опять парадокс!), никаких дозиметров нет. Скажете, все потому, что нет у нас порядка? Это только так кажется, а на самом деле страной вот уже целую пятилетку правит довольно сильная рука. Рука эта сильно тасует руководящие кадры, укрепляет дисциплину на производстве, борется с преступностью, заботится о спортсменах, учителях и ученых, но вот загадка: кадры раз за разом не оправдывают доверия, разгильдяев и выпивох на производстве становится все больше, ученые уезжают из страны, учителя нищенствуют, повсюду воруют и берут взятки как никогда... Те же иностранцы удивляются тому, как много на улицах белорусских городов милиционеров, и приводят "шпионские" данные: число стражей порядка у нас намного превосходит количество защитников отечества. Значит, есть причины бояться. Народ ведь у нас непредсказуемый и противоречивый: можем и толерантными быть, и законопослушными, а можем и по морде. А все потому, что жизнь парадоксальная, да и пьем много...

Хотя, справедливости ради, нельзя не отметить: есть у нас загадки да парадоксы весьма радостные. Вот вроде бы и нищеет народ, беднеет, а иномарок на улицах все больше. И в Болгарию ездим отдыхать, и в Турцию, и на Кипр, и даже на Канары. "Видики" покупаем, "кубики", стиральные машины-автоматы... Хотя при этом жалуемся на 30-долларовые зарплаты. И о тяжелой доле женщин любим рассуждать, но посмотрите, как много у нас красавиц. Да и красавцев (это уж не мне судить, но знакомые девушки так утверждают) тоже немало. А одеваются многие белорусы так, что даже европейцы завидуют. И нахваливают наш хрусталь, нашу косметику, трикотаж, водку, пиво, трактора, холодильники, оптику — список можно продолжить. Точно так же, как список противоречий, контрастов, загадок и парадоксов, на которые так щедры государство и народ наш. И некому нас раскусить. Может, самим попробовать?

**Андрей ДЕМЕНТЬЕВСКИЙ, АиФ.**

● *ПОГЛЯД*

# ДОЎГІ ШЛЯХ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Нягледзячы на пастаянную занепакоенасць, якая існуе ў патрыятычна настроенай часткі беларускага грамадства, вось ужо каторы год наша краіна з'яўляецца незалежнай і суверэннай. Шматгадовае імкненне беларусаў не быць ні пад Расіяй, ні пад Польшчай, ні пад якой іншай дзяржавай, а быць самастойнай нацыяй, гаспадарамі на ўласнай зямлі ўвасобілася ў рэальнасць толькі ў 90-х гадах. Але сама гісторыя станаўлення незалежнасці, шлях да яе вылічваецца дзесяцігоддзямі.

Вядома, хтосьці можа паспрачацца з гэтым сцвярджэннем, прапанаваўшы мне прачытаць гісторыю Вялікага княства Літоўскага. Але пры гэтым кожны разумее, што з ВКЛ выйшлі некалькі сённяшніх дзяржаў, таму Вялікае княства было толькі праобразам, калі можна так сказаць, калыскай сучаснай Беларусі.

Між тым, першай значнай задакументаванай вяхой на гэтым шляху з'яўляецца дата 25 сакавіка 1918 года, калі з'явілася III Устаўная грамата, якая абвясціла незалежнасць і суверэнітэт Беларускай Народнай Рэспублікі. То была першая рэальная спроба нашай дзяржавы зацвердзіцца ў якасці раўнапраўнага суб'екта міжнароднай супольнасці, і гэта пры тым, што на тэрыторыю Беларусі прэтэндавалі Германія, Расія, Польшча, а таксама Украіна, Літва і Латвія, якія, зразумела, не маглі змірыцца са станаўленне БНР.

Сёння стаўленне да падзей 1918 года вельмі неадназначнае. І прычынай гэтага, несумненна, з'яўляецца тэлеграма кіраўніцтва БНР да Вільгельма II з просьбай узяць Беларусь "пад апеку германскай дзяржавы". Так, палітычная сітуацыя вакол Беларусі на той момант была настолькі складанай, што кіраўніцтва БНР было нраздольнае ўтрымаць у сваіх руках дзяржаўную ўладу, пабудаваць незалежныя і ўплывовыя, іменна самастойныя, органы кіравання. Таму тагачасным ідэолагам беларускай дзяржаўнасці, на жаль, здавалася, што захаваць суверэнітэт можна толькі пад апекай іншай дзяржавы, пад крылом Германіі. Сёння мы разумеем, што гэта было вялікай памылкай, якая моцна скампраметавала ўсе памкненні ініцыятараў БНР. Таму зараз некаторыя палітычныя колы ў Беларусі імкнуцца нават адпрачыць факт заснавання і існавання БНР у нябыт. Тым не менш, 25 сакавіка ўвайшло ў беларускую гісторыю як першая спроба стварыць самастойную дзяржаву.

Пазней, 1 студзеня 1919 года, дарэчы, тады, калі фармальна існавала БНР, была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. БССР аказалася больш жывучым утварэннем, паколькі цалкам адпавядала геапалітычным інтарэсам Расіі. Такім чынам, у 1919 годзе ўжо перамаглі прыхільнікі беларускай аўтаноміі пад апекай Расіі. І менавіта рашэнне, прынятае ў 1919-м, вызначыла лёс Беларусі на далейшыя дзесяцігоддзі — амаль да пачатку 90-х. Пераважная частка нашых суайчыннікаў нарадзілася менавіта ў гэты перыяд, таму ў іх уяўленні незалежнасць Беларусі, як ні парадаксальна, атаясамліваецца менавіта з БССР, нягледзячы на тое, што яна была ўсяго толькі суб'ектам СССР.

У лісце беларуса па паходжанню Масея Сяднёва, які жыве ў ЗША, гаворыцца, што нашых суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны ў такой жа меры хвалюе лёс незалежнасці краіны. М.Сяднёў, разважаючы пра суверэнітэт Беларусі, таксама прыходзіць да высновы, што заходні і ўсходні накірункі аказалі вельмі моцны ўплыў не толькі на шлях нашай дзяржавы да самастойнасці, але і на само ўспрыманне нашымі суграмадзянамі ўласнай незалежнасці. "Нашы мацнейшыя суседкі — заходняя і ўсходняя, —піша ён, на працягу стагоддзяў намагаліся дапасаваць нас да свайго светапогляду. І трэба сказаць, часам ім гэта ўдавалася. Існаванне ў дзвюх дзяржавах абумовіла і два накірункі ў падыходзе да пытання дзяржаўнага нацыянальнага будаўніцтва — заходні і ўсходні. Яны даюць сябе выразна адчуць і ў нашай сённяшняй нацыянальнай палітыцы. І процістаянне гэтых накірункаў набывае цяпер асаблівую вастрыню, выклікае ў нашым грамадстве разбежнасць і канфліктнасць у падыходзе да пытання беларускай дзяржаўнасці, што аніяк не спрыяе вырашэнню гэтага пытання".

27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў гістарычны дакумент —Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. А сама дата была абвешчана Днём незалежнасці. Гэта стала, бадай, самай заўважнай вяхой на шляху станаўлення сённяшняй беларускай дзяржавы. У адрозненне ад многіх народаў, незалежнасць у гэты дзень была атрымана мірным шляхам. (Дарэчы, хто-ніхто іншы раз кажа, што менавіта таму мы, беларусы, і не цэнім яе належным чынам). Мары беларусаў нарэшце збыліся: нас прызналі як самастойную краіну больш як 130 дзяржаў свету. Магчыма, на працягу некалькіх наступных гадоў хто-ніхто спадзяваўся, што гэты працэс не працягнецца доўга, што вецер волі павее год-два, а потым усё вернецца ў ранейшае рэчышча. Дзякуй Богу, гэтыя спадзяванні не збыліся.

Хочацца спадзявацца, што ў 1990 годзе наша краіна атрымала незалежнасць на вякі, што беларус надоўга ўтрымае ва ўласных руках сваю самую найвялікшую каштоўнасць, падставы так меркаваць дае разуменне таго, што за гэты час вырасла і сфарміравалася новае пакаленне нашых суграмадзян, якое ўжо думае інакш, якое не ўяўляе жыцця ў іншых умовах, не ўяўляе сябе ў нейкай іншай краіне, акрамя Рэспублікі Беларусь. Больш таго, за дзевяць гадоў больш як 800 тысяч маленькіх грамадзян нарадзіліся ўжо ў Рэспубліцы Беларусь.

3 ліпеня — дата не меншай гістарычнай важнасці для беларускага народа. У вызваленні краіны, яе сталіцы ад нямецка-фашысцкай навалы хаваецца моцны фактар незалежнасці і свабоднага развіцця чалавека. Цяпер у Беларусі галоўнае дзяржаўнае свята — Дзень Рэспублікі —прызначана менавіта на пачатак ліпеня.

Але сёння я не буду гаварыць пра тое, што падобнае рашэнне парадзіла палітычныя спрэчкі ў беларускім грамадстве — пра гэта ўсе добра ведаюць. Сёння, мне здаецца, трэба гаварыць пра іншае. Маючы такі невялікі вопыт самастойнага жыцця, наша дзяржава павінна шукаць захады для аб'яднання і ўмацавання нацыі. І якраз святы павінны гуртаваць нашых людзей, таму ім як мага менш трэба надаваць палітычнай афарбоўкі.

Кожнаму свядомаму чалавеку зразумела, што і 25 сакавіка, і 1 студзеня, і 27 ліпеня, і 3 ліпеня — гэта неаспрэчныя факты нашай агульнай гісторыі. І пры гэтым неабходна ўлічваць той фактар, што ўсе людзі Беларусі, якім давялося жыць у розныя часы, маюць схільнасць святкаваць менавіта тую дату, якую ім падказвае сумленне, якая ім бліжэй паводле ўласных перакананняў, паводле ўласнага лёсу. Змяніць такі стан рэчаў немагчыма. Таксама відавочна тое, што ўсе гэтыя даты паслядоўна звязаны. Мы дакладна можам сказаць: калі б не было 25 сакавіка, то, несумненна, не было б і 1 студзеня, калі б не было 27 ліпеня, то, напэўна, не было б і 3 ліпеня. Ці, дакладней, наадварот...

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## АПАЗІЦЫЯ РЫХТУЕЦЦА

*У апошні жнівеньскі дзень у Мінску прайшлі кансультацыі паміж палітычнымі партыямі наконт перамоваў з уладамі Беларусі.*

*Кіраўнік кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ у Мінску Ганс Георг Вік перадаў удзельнікам кансультацыяў прапанову ўладаў сустрэцца з прадстаўнікамі партыяў дзеля абмеркавання магчымасці доступу апазіцыі да сродкаў масавай інфармацыі. Удзельнікі кансультацыяў пагадзіліся на такую сустрэчу. У дыскусіі будуць удзельнічаць па адным прадстаўніку ад партый, якія падпісалі праект платформы апазіцыі, а таксама прафесар Міхаіл Пастухоў. Ён з'яўляецца цяпер каардынатарам групы ў пытаннях доступу да СМІ. З трэцяга верасня апазіцыя распачала падрыхтоўку да перамоваў.*

**(Наш кар.)**

УЛАДАЛЬНІКАМ НЕВЯЛІКІХ УЧАСТКАЎ ЗЯМЛІ

# Полторы тонны картофеля с сотки

Садовые участки, как правило, невелики, да и обрабатывать вручную большую площадь — дело нелегкое, особенно людям пожилого возраста. Между тем площади двух-трех грядок достаточно, чтобы обеспечить Вашу семью картофелем, если воспользоваться многолетним опытом агронома из Горьковской области И.Л.Лисицина. Если Вы воспользуетесь его советами, то 15 кг с одного квадратного метра (полторы тонны с сотки) — дело вполне реальное. В чем же секрет небывалых урожаев? Заботиться об урожае нужно начать с осени —отобрать полноценные 100—150 г клубни и озеленить в течение двух недель (подержать на свету) сорта — "ранняя роза" и "гатчинский". При озеленении клубни изредка переворачивают. Почву так же надо готовить с осени, вначале глубоко взрыхлить железными граблями, удаляя при этом все растительные остатки и сорняки. Затем внести органические и минеральные удобрения: на 1 квадратный метр перегноя — 0,5 кг., хлористого калия — 30 г, двойного суперфосфата — 50 г и перекопать.

Весной — в марте — надо готовить клубни к посадке. Перед проращиванием, *пока почки не тронулись в рост*, необходимо на каждой клубне сделать поперечный кольцевой надрез тонким ножом на глубину 1-1,5 см. Кусты при этом вырастают более мощными, урожай повышается на 10-15%. Проращивать клубни нужно с 10 марта в плоских, неглубоких ящиках, с насыпанными на дно опилками при температуре 10-20$^0$. Клубни раскладываются верхушками вверх и до начала прорастания укрываются от света. После притенение снимают и освещают по 10-12 часов в сутки. С 10 до 25 апреля проращивание продолжить уже во влажной среде. На дно ящиков насыпается смесь перегноя и опилок в соотношении 2:1. Толщина слоя —3 см. Смесь и клубни периодически опрыскивают водой, а на пятый и на десятый день раствором удобрений: 60 г суперфосфата, 50 г аммиачной селитры, 0,5 л водной вытяжки золы на 10 л воды. Водная вытяжка золы готовится так: литровая банка золы заливается двумя литрами теплой воды на 1 сутки. Во время влажного проращивания вырастают крепкие толстые ростки, клубни дают корешки, которые нужно присыпать смесью перегноя с опилками. Полезно закаливать клубни при открытых окнах. Одновременно нужно позаботиться и об участке — во второй половине апреля, в солнечные дни застелите его темной пленкой, чтобы почва поскорее прогрелась. Перед посадкой в почву дополнительно внести на 1 квадратный метр 50 г двойного суперфосфата, 30 г аммиачной селитры и 20 г калимагнезии. Смешивать удобрения с почвой с помощью граблей. Сажать клубни необходимо в конце апреля, когда почва прогреется до 10-15$^0$. Вкопать лунки глубиной 20 см по схеме 50x20 см. В каждую лунку вносится заранее приготовленная смесь: 5 кг перегноя, стакан золы, стакан двойного суперфосфата, полстакана нитроаммофоски, полстакана калимагнезии. Смесь должна быть тщательно перемешана. В каждую лунку насыпается пол-литровая банка смеси и перемешивается с почвой. Пророщенные клубни высаживаются на глубину 6-8 см. Если после посадки наступает резкое похолодание, участок покрыть темной, а затем прозрачной пленкой. Если появились всходы и ожидаются заморозки — лучше их присыпать почвой. При достижении всходами высота 7-10 см. На ночь опрыскать 0,02-процентным раствором марганцевокислого калия (2 г на 10 л воды). Полезно за период роста сделать две внекорневых подкормки. *Первую — в начале бутонизации* 3-процентным раствором аммиачной селитры с добавкой микроэлементов. Вторую делают для ускорения созревания клубней — 5-процентной вытяжкой суперфосфата и калимагнезии (фосфора — 3, калия и магния — 2). Хорошо совместить внекорневую подкормку с профилактикой фитофтороза —добавить в питательный раствор однопроцентный раствор бордосской жидкости.

***Использованная литература:***
**И.Л.ЛИСИЦИН**
**"Урожайные грядки".**

*У "застойныя гады" так адпраўлялі бульбу ў Маскву і Ленінград.*

**Фота В. БЫСАВА.**

## Не выкідвайце шалупінне!

Настой шалупіння цыбулі прымяняюць для прамывання пакаёвых раслін, пазбаўляючы іх ад павуціннага кляшча. Выкарыстанае шалупінне ў адвары можна потым эфектыўна прымяніць як арганічнае ўгнаенне ў садзе ці агародзе. Гэта будзе і стымулятар урадлівасці. На гэтую арганіку добра рэагуе бульба. А для барацьбы з каларадскім жуком побач з раслінамі закопваюць шалупінне цыбулі — жукі не выносяць яго паху. Шалупінне валодае лекавымі і бактэрыцыднымі уласцівасцямі, цудоўна дзейнічае на ныркі, таму пры прыгатаванні страў рэпчатую цыбулю кладуць у іх не абабранай, а калі страва зварыцца, шалупінне выдаляюць.

А вось рэцэпт прафілактычнага адвару супраць грыпу: 40-50 г шыпулен ад кінцавых галінак сасны заліць 2 л вады ў эмаліраванай пасудзіне, дабавіць сталовую лыжку шалупіння і чайную лыжку лакрычнага кораня. Усё пракіпяціць на слабым агні 20 хвілін, дабавіць дзве сталовыя лыжкі шыпшыны і гатаваць яшчэ паўхвіліны. Пераліць у тэрмас на 10-12 гадзін. Працадзіць і зноў давесці да кіпення, астудзіць і піць без нормы. Захоўваць у халадзільніку. Сродак выводзіць з арганізма шлакі, папярэджвае многія захворванні. Шалупіннем можна і абеззаражваць ваду.

## Усміхнёмся

*Паспрачаліся немец, беларус і рускі, у каго жонка лепшая. Немец кажа:*

*— Мая жонка, як газель, уся такая вытанчаная, гнуткая.*

*Беларус кажа:*

*— У мяне жонка, як казуля, даўганогая, чуллівая.*

*Рускі кажа:*

*— У мяне тоже жена скотина, только не знаю, какой породы.*

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Пралёт метэарытных целаў адбываецца ўвесь час, яны пастаянна ўваходзяць у нашу атмасферу. Звычайна найчасцей мы бачым "падаючыя зоркі" жнівеньскімі начамі таму, што ў гэты час атмасфера найбольш чыстая і празрыстая. На самай жа справе падзенне нябесных целаў адбываецца кожны дзень — у сярэднім за суткі на зямлю падае каля 20 тон рэшткаў "прышэльцаў" з космасу.

Самы цяжкі на Беларусі метэарыт — Грэск — належыць да жалезных. Ён быў знойдзены адным кавалкам вагой 303 кг. А бываюць метэарыты каменныя і з іншых матэрыялаў.

У Антарктыдзе былі знойдзены метэарыты, на якіх захаваліся сляды жыцця — лішайнікі — і яны працягвалі жыць. Гэта дае падставу лічыць, што жыццё на зямлю прыйшло з Космасу. Так, была і вядомая эвалюцыя, аднак першыя жывыя формы трапілі менавіта адтуль.

***

Яшчэ за 500 гадоў да нараджэння Ісуса Хрыста нашу Зямлю наведалі іншапланецяне. Яны аставілі землянам важныя звесткі і прадказанні, якія запісаны на скураных скрутках, знойдзеных у 1947 годзе на беразе Мёртвага Мора. Вось некаторыя з іх.

Аказваецца, Майсей ня быў ні габрэям, ні егіпцянінам, ні наогул чалавекам. Ён прыбыў на зямлю як пасланнік Бога.

У 1994 годзе зноў нарадзіўся Ісус Хрыстос. Зараз ён ужо жыве на Зямлі. І хутка адбудзецца яго другое прышэсце. А там і страшны суд землянам.

З 2025 года пасля страшнага суда, *для людзей, якіх Бог памілуе*, пачнуцца шчаслівыя стагоддзі без галечы і войнаў. Яны працягнуцца да 11991 года, *калі наступіць канец* свету на зямлі, а выбраннікі Бога адродзяцца, як спецыфічныя формы жыцця, на іншай планеце, што па апісанню нагадвае Марс...

**"Вести", Ізраільская газета.**

***

Паміж чалавекам і раслінай устанаўліваюцца нябачныя складаныя сувязі, праяўленне якіх адбываецца, як правіла, у стрэсавых ці эмацыянальна напружаных сітуацыях.

Дапушчальна меркаванне, што прадстаўнікі флоры ўлоўліваюць электрамагнітныя палі, генерыруемыя рознымі органамі і сістэмамі арганізма чалавека.

У першую чаргу мозгам і сэрцам.

***

Пастаянна насіць заручальны пярсцёнак на пальцы небяспечна для здароўя. Калі не даваць безыменнаму пальцу "адпачынак" ад цесных абдымкаў пярсцёнка, то можна справакаваць альбо мастапатыю, альбо захворванне палавых органаў і эндакрынных залоз.

Тыя ж, хто любіць нанізваць пярсцёнкі на ўсе пальцы, рызыкуюць набыць цэлы букет хвароб. Высветлілася, што ўпрыгажэнне на сярэднім пальцы здольна выклікаць атэрасклероз і гіпертанію, на указальным— астэахандроз і радыкуліт, на мезенцы —захворванні дванаццаціперснай кішкі. Так што хоць нанач здымайце з пальцаў пярсцёнкі, дайце ім адпачыць.

Усе людзі падзяляюцца на так званых жаваранкаў, соў і галубоў. Жаваранкі, як правіла, лепш працуюць раніцай, совы — ўвечары, а галубы — ўдзень.

Калі раніцай, адразу пасля сну, змераць у сябе частату сардэчных скарачэнняў і колькасць удыхаў і выдыхаў, то магчымы тры варыянты. Калі частата пульсу адносіцца да колькасці ўдыхаў і выдыхаў як 4:1, ці блізка каля гэтай велічыні, то вы — "голуб". Калі частата пульсу павялічваецца і адносіны становяцца 5:1, 6:1, то вы — "жаваранак". Павелічэнне частаты ўдыхаў і выдыхаў і змяншэнне гэтых суадносінаў характэрнае для "соў".

У доўгажыхароў сон займае 10 гадзін у суткі.

***

Большасць лекавых раслін трэба збіраць у маладзік — такія расліны валодаюць большым лячэбным дзеяннем.

***

*Дрэва, ссечанае, калі на небе* з'яўляецца першы серп новага Месяца, менш гніе.

***

З 19 да 21 гадзіны на небе з'яўляецца месяц, у гэты час больш эфектыўна лячыцца ад імпатэнцыі і фрыгіднасці.

З 1 да 3 гадзін ночы — ідэальная пара для прыёму лекаў пры хворай печані.

*Дары восені.*

**Фота В. БЫСАВА**

# БЕЛАРУСКІ УСХОД

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі:**

**213670, Магілёўская вобл. Хоцімскі р-н в. Маркаўка**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца. Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

**Тэлефон для даведак: 22-9-89 у Хоцімску.**

## Тлумачэнні да купона для бясплатнай аб'явы

*ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!*

**Некаторыя з вас даслалі ў рэдакцыю няправільна ці неразборліва запоўненыя купоны. Гэткія купоны мы не разглядаем і аб'явы не друкуем, аб чым і папярэджвалі Вас. Іншыя нават прыслалі "дадаткі" да купонаў на цэлых лістах са сшытка.**

**У гэтым ёсць крыху і нашай віны: мы не далі падрабязных указанняў па запаўненню купонаў. Выпраўляем гэту памылку і тлумачым: трэба тэкст аб'явы пісаць у клетачках купона, у кожнай па аднаму знаку — літара, лічба, ці знак прыпынку. Пустую клетачку паміж словамі пакідаць не трэба, каб магло змясціцца больш знакаў. Калі ж чатырох радкоў нашага купона не хапае для той аб'явы (ці віншавання), што вы жадаеце змясціць, тады можна астатні тэкст прадоўжыць на асобным лісце. Але за гэты дадатковы тэкст трэба ўжо плаціць па расцэнках, што на дзень друкавання дзейнічаюць. Гэтыя тарыфы былі змешчаны ў другім нумары "Беларускага Ўсходу" і друкуюцца паўторна ў сённяшнім нумары на першай старонцы.**

**Рэдакцыя.**

# Таленты нашага краю

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ СТАРОНКА**

*Мікола МІНЧАНКА*

## ТОНКАЕ КРЫЛО

*У шчасця тонкае крыло.*
*Падзьмула ветрам —*
*надламала.*
*А шчасце — шчасце быць*
*магло.*
*Не вер, што ўжо яго не стала.*
*У шчасця тонкае крыло,*
*Нібы ў лебедзя ў палёце:*
*Яно пушынкай паплыло —*
*І застаешся ў адзіноце.*
*У шчасця тонкае крыло.*
*Яно не можа без узлёту.*
*Давай забудзем, што было —*
*Згадаем радасную ноту.*
*У шчасця тонкае крыло.*
*Яно ніколі не крычала:*
*"У маі ўсё наўкол цвіло,*
*Каб потым восень сумавала".*
*У шчасця тонкае крыло.*
*Парою мы не разумеем,*
*Што шчасце —*
*шчасце быць магло,*
*Ды берагчы яго ня ўмеем.*

## КЛІЧА СОНЦА

*А сонца рана ўстае,*
*Нібы гарніст, пад'ём нам грае.*
*І промні мяккія свае*
*Дзятве шчаслівай пасылае.*
*А сонца рана ўстае.*
*Каб летні дзень напіўся ласкі,*
*Каб мудры старац дзіва-казкі*
*Прыдумваў светлыя свае.*
*А сонца рана ўстае.*
*У яго заўжды свае турботы —*
*Усіх паклікаць да работы:*
*Усіх, хто жне і хто пяе.*

* * *

*Ты мне хацела расказаць*
*Пра дзень, калі красуе жыта,*
*І ўсё, што некалі забыта,*
*Як пласт глыбінны,*
*зноў узняць.*
*Ты мне хацела расказаць*
*Пра летні дзень,*
*што сонцам грае,*
*І што ніколі сенажаць*
*Сваёй прынады не губляе.*
*Ты мне хацела расказаць,*
*Што дагарае ціха лета,*
*Каб жнівом яно апета,*
*І рунь, як сцяг жыцця, відаць.*
*Ты мне хацела расказаць,*
*Што мы заўжды ў вадавароце:*
*Наш адпачынак у рабоце —*
*Пасеяў — трэба ўбіраць.*

* * *

*Сінее чысты далягляд,*
*Таму нам весела пяецца,*
*Таму дзяўчына вунь смяецца,*
*Вяргіні — радасцю ля хат.*
*Жніво завершана. Цяпер*
*Гуляйце, любыя, вяселле.*
*Млынар пшаніцу*
*спрытна меле.*
*У маладых, як хмель, давер.*
*Спяшаць яны адкрыць хутчэй,*
*Чым сэрца шчырае багата.*
*Спявайце ж песні —*
*сёння свята*
*Для нас і будучых людзей.*
*Спявайце песні пра жыццё,*
*Якое нас узгадавала,*
*Бо радасць нашу пачуццё*
*Слязіны горкай абмывала.*
*І "горка" маладым крычаць*
*Усе, хто сёння на вяселлі.*
*О, не таму, што захмялелі.*
*Жыццё — ўсё тая ж сенажаць.*
*Хай сонца рана ўстае,*
*Нібы гарніст, пад'ём нам грае.*
*І промні мяккія свае*
*Дзятве шчаслівай пасылае.*

*Апанас ПАЛІТЫКА*

## СВАЮ МОВУ — У КАРШЭНЬ

*Халаднеча вакол, халаднеча.*
*Што там рукі, азызла душа.*
*І жыццё, як суровае веча,*
*Дзе твой лёс*
*не цяжэй за ярша.*
*Усё спаганена ўжо*
*дастаткова,*
*Усё згубіла прывабнасць сваю.*
*Нават родная матчына мова,*
*Што калісь здабывалі ў баю.*
*Ужо іншую туляць да сэрца,*
*А свая, быццам тая мішэнь:*
*Кожны плюнуць*
*лаўчэй імкнецца,*
*Як жабрачку,*
*штурхнуць у каршэнь.*
*Гэй, каравая, прэч з дарогі!*
*І цярпенню свая пара.*
*Хоць і маткай была ты,*
*нябога,*
*Але тэпай хутчэй з двара!*
*Ой ты, маці зямля сырая,*
*Непахісны закону граніт:*
*Хто ў каршэнь*
*сваю мову штурхае,*
*Той штурхае сябе ў нябыт.*
*І калі яго чэрап гладкі,*
*Што духоўнік*
*не бачыць страт,*
*І ўспомніцца неяк нашчадкам,*
*Дык не лепей,*
*як той Герастрат.*

## РАТУЙ МЯНЕ

*Ратуй мяне маё сумленне,*
*Як неба зорачку вунь тую,*
*Як я ўсім д'яблам*
*на здзіўленне*
*Заўжды жыццё сваё ратую.*
*Ратуй мяне ад злой ляноты,*
*Ад заспакоеннасці ўвішнай,*
*Ад нерашучасці — маркоты*
*І ад паспешлівасці лішняй.*
*Ратуй мяне ад чорнай*
*помсты,*
*Ад жоўтай заіздрасці навалы,*
*Ад прагі да кішэняў тоўстых*
*І ад удачы небывалай.*
*Ратуй ад чынашанавання,*
*Ад позіркаў на трон высокі,*
*І ад дурману абяцанняў,*
*Што стрэкаты лягчэй сарокі.*
*Яны і так, як тыя кулі,*
*Прашылі гарады і вёскі,*
*І ўсе пад посвіст іх паснулі,*
*І спяць каторыя ўжо вёсны.*
*Ратуй мяне маё сумленне,*
*Ад цёплых дум і раўнадушных,*
*Каб песняй,*
*поўнаю натхнення,*
*Гукаць людзей*
*у край відушчых.*

## ДОЙНАЯ КАРОВА

*А я даю, усё даю*
*Цябе, буронушку маю,—*
*І па краях, і пасярод*
*Цябе, рахманы мой народ.*
*А ты ўраскарачку стой,*
*Не брыкайся, у дошку свой,*
*І мудрым будзь,*
*як Маркса том,*
*І брудным не круці хвастом.*
*Каб вольна, роўненька цякло*
*У даёнку цуда-малако,*
*Каб пенай крыўся сырадой*
*І каб багаты быў удой.*
*Каб чулася, што не адзін,*
*Пажваць газетак мы дадзім.*
*А пажадаеш, для душы*
*Аб шчасці вершыкі пішы.*
*А за паводзін бляск і шык*
*Пашлём цялушку на шашлык.*
*Калі ж народзіцца бычок,*
*З яго мы зробім кумпячок.*
*Як заняможыш сам, ну што ж,*
*І самаго пашлем пад нож.*
*Каб не валяўся тут і там,*
*На зуб не трапіў злым ваўкам.*
*Бо ты — ня нейкіх*
*дурняў зброд,*
*Ты наш шаноўнейшы народ.*

*У. ДАЛЕЦКІ*

## ЯК СВАЕ ПЯЦЬ ПАЛЬЦАЎ

**(ГУМАРЭСКА)**

Ці спрабавалі вы калі-небудзь зрабіць сюрпрыз жонцы? Ужо прадбачу, паважаныя мужчыны, вашы заўвагі накшталт таго, што спрабаваць зрабіць сюрпрыз жонцы —гэта тое самае, што лавіць вецер капялюшом — адна мітусня ды беганіна...

Што ж, цалкам вас разумею, паважаныя! Сапраўды, псіхалоія жанчыны — таямніца. А чаго хоча жанчына, яна і сама не ведае. Зноў жа, набыць падарунак для жанчыны, які б яшчэ і спадабаўся, лічу, задача не для слабых мужчынскіх мазгоў. Але ж на свеце і такое магчыма — так лічыць мая палавіна. На яе думку і мужчына можа набыць неабходнае, калі атрымае самыя падрабязныя і дасканалыя ўказанні. І яна мае рацыю. Вось паслухайце.

Давялося мне аднойчы наведаць, як прынята цяпер гаварыць, з турыстычнымі мэтамі Германію. Ну, вядома, які з нашага брата турыст — толькі па магазінах шнырыць. Вось і мне жонка цэлы спіс, прычым з самымі падрабязнымі ўказаннямі, падрыхтавала.

Вось і тая вылізаная Германія. Цяжка там нашаму чалавеку, але я справіўся: усё патрэбнае з таго спісу набыў. Вось толькі адна ў мяне праблема: ад частага карыстання на выгібу паперка пацёрлася і, галоўнае, у тым месцы, дзе жонка паведамляла зыходныя даныя бюстгальтара. Я спачатку засмуціўся: вось няўдача! А потым добра падумаў і вырашыў: няўжо я сваю жонку не ведаю! Другі дзесятак разам жывём.

І вось я ў магазіне жаночай бялізны — колькі ўсяго тут цікавага: за ўсё сваё жыццё не бачыў! Такое б маёй жонцы, глядзіш, было б не адно ў нас дзіцяці, а, скажам, значна болей.

Што купіць? Выбар — вочы разбягаюцца. Адсюль і ўся праблема.

Хаджу па таму магазіну, як па музею — ды ёсць на што паглядзець. Праўда, на што ўжо немкі да нашых турыстаў прызвычаіліся, але і тыя пачалі на мяне азірацца. А іншыя не толькі вылуплiваюцца, але і пальцамі торкаюць. Няўжо нашы суайчынніцы?!

Нарэшце асмеліўся, ды да прылаўка. Няўжо не дамоўлюся: у школе па нямецкаму не з апошніх быў? Можна сказаць, як свае пяць пальцаў ведаў.

Я да немкі, што за прылаўкам, гэтак па іхняму, з падыходам, звяртаюся. Бачу — не разумее! Я яшчэ раз —той жа эффект. Нейкая дурная — роднай мовы не ведае! Я тады па прывычцы сабе рукамі пачаў дапамагаць: мовай жэстаў. Тычу ў той бюстгальтар, што на вітрыне: "Фройлен, фройлен!.." Ды грошы ёй у руку піхаю.

Нешта пачырванела тая немка: відаць, падумала, небарака, што я ёй нешта такое непрыстойнае прапаную: (нешта накшталт таго, каб той ліфчык прымерыць). Ды ў мяне і ў галаве такога не было: вельмі ўжо ў яе фігура хударлявая, а мне памер на нашу кабету патрэбны.

Як віскне тая немка: "Найн!" Я да яе зноў: "Найн, найн, фройлен, мне гэта, гэта!" — ды зноў тычу пальцам ў той бюстгальтар, што на вітрыне.

Тут мая немка тварам пасвятлела, відаць, нешта скеміла. Заматляла галавой, ды нечага так уважліва на мае рукі глядзіць. Я ўжо гаварыў, што звычка ў мяне такая — калі языком не атрымліваецца, то рукамі дапамагаю. Ды так трасу растапыртымі пальцамі, ну нібы нешта ў паветры мацаю.

Але ж немка за прылаўкам не так мяне зразумела, сама склала пальцы гэткаю пірамідкаю, і на вока суадносіць ахоп сваіх пальцаў з маім узорам. Бачна, абрадвалася, небарака, маўляў, атрымалася. Ды і давай свае пальцы да бюстгальтараў прымяраць і — выбрала. Ды з такой здаволенай усмешкай мне той падабраны такім незвычайным шляхам бюстральтар у рукі пхае, маўляў, "бітэ". А што мне рабіць: моўны бар'ер жа — не растлумачыш! Ды і немкі чамусьці пачалі ля прылаўка кучкавацца. Ухапіў я той бюстгальтар — прадавец так прыгожа яго загарнула, аддаў грошы і дай Бог ногі.

Ужо ў поездзе прабраўся ў туалет і разгарнуў тую прыгожую паперу, каб пабачыць, што заката ў мяху прыдбаў. А пабачыў — ажно дух заняло: сапраўдны чахол! Спіхнулі, выходзіць, нехадавы тавар, немцы! Нават на Захадзе нашага братку дураць!

Што тут рабіць: спусціў той падарунак ва ўнітаз: жонка яшчэ падумае, што для нашай сакратаркі купіў, ды ў палюбоўнікі нас запіша. Ведаеце, яна ў мяне хоць і ў целе, але ж памеры не такія. За амаль дваццаць гадоў сумеснага жыцця я яе ведаю яе свае пяць пальцаў.

А што падумалі нямецкія чыгуначнікі пуцейцы, калі пры абыходзе знайшлі мой падаруначак, і ўявіць сабе не магу...

*В. ДОЛГОЛЕВ*

## КОЛДОВСКАЯ ЛЮБОВЬ

— Поет Тамара Светлова! — объявил ведущий, — солистка Заречанского сельского клуба. И назвал песню.

Уже полдня шел районный смотр-конкурс сельских коллективов художественной самодеятельности. Сиротин сидел за столом в составе жюри уставший и полусонный. Он почти не воспринимал окружающее. Приличия ради смотрел на выступающих с видом внимательного слушателя.

На сцену из боковой двери вышла певица и, гулко цокая каблучками, картинно подошла к микрофону. Несмело остановилась. Обвела взглядом зал. Баянист уже начал играть, а она все медлила. Поправляла микрофон, то приподнимая, то чуть осаживая его.

Но вот деревенская артистка гордо вскинула голову, смело устремила взгляд в глубину зала.

Сиротину показалось, что она смотрит только на него. И он внимательно стал ее рассматривать. Скоро стало ясно, что певица его даже не замечает. Но взгляда отвести от нее уже не мог.

Ее фигура завораживала. Яркая розовая кофточка нежно обтягивала высокую упругую грудь. Вся она казалась изваянием искусного скульптора. Распущенные густые пышные волосы лежали на плечах, свисали прядями на грудь и это особенно нравилось Сиротину. Ему хотелось, чтобы она смотрела на него. Он уже забыл об усталости, о том, что почти всю ночь не спал в поезде по пути в этот далекий райцентр. Теперь он жадно глядел на певицу. А она его не замечала. Он мысленно приказывал ей посмотреть в его глаза. Затем он стал ее просить, наконец умолять. "Ну взгляни же, взгляни. Хоть раз, хоть на миг! Ну что тебе стоит..."

И в самом деле взгляды их встретились. На одно лишь мгновение. И его будто током ударило. Он даже испугался. Огляделся. Подумалось, что все это увидели. Но нет. Все смотрят на сцену. Слушают:

*А где мне взять такую песню*
*и о любви, и о судьбе...*

"Кому она адресует эту песню?" —думал Сиротин. — "Репертуар у певиц всегда созвучен их внутреннему миру, их переживаниям. Иначе песня не получится. Прозвучит фальшиво. А тут за сердце берет".

Зал затопила песня:

*Кого-то в рощу заманила,*
*Кого-то в рощу заманила,*
*Кого-то в поле увела...*

"Что же это такое? Почему меня так тревожит песня? Глупыш я великовозрастный... песен, что ли, мало всяких слушал". А со сцены льется:

*...девчонка милого ждала...*

Мысли у Сиротина клубились, перепрыгивали во времени. Ему вспомнилась другая песня, песня его юности. Он очень любил напевать своей Наташе, когда, взявшись за руки, они бродили теплыми летними вечерами по городскому парку:

*Догоню, догоню,*
*ты теперь не уйдешь от меня...*

В зале бурно зааплодировали. Певицу вызывали на "бис". Но ведущий объявил следующий номер. Светлова, не оглядываясь, ушла со сцены.

Когда обсуждали результаты конкурса, Сиротин принимал активное участие до тех пор, пока очередь дошла до Светловой. Дальше он не проронил ни слова. Боялся признаться даже себе, что к ней неравнодушен. Он гнал от себя мысли о ней, а они, как назло, заполняли весь мозг. "Нет, нет, — говорил он себе, это не серьезно. Это от бессоницы. Устал — вот и грезится лишь бы что. Отдохну, приеду домой, и все как рукой снимет". Он попытался вспомнить жену, сына, но все это тут же ускользало, перед глазами возникал образ магической певицы и в ушах звучало:

*и чтоб никто не догадался,*
*что это песня о тебе...*

Прошел год. В областном доме народного творчества зашел разговор о Тихомском районном Доме культуры.

— Не знаю, что себе думают в областном управлении, — сказал Виктор Барановский, — дирижер сводного городского народного струнного оркестра. В этом районе немало настоящих талантов, а вот работать с ними — некому. Ведь там даже в РДК нет хорошего специалиста. Нужно бы послать в Тихомск несколько толковых товарищей, специалистов, энтузиастов.

— Только не нас с тобой, — с улыбкой сказал Вадим Сиротин.

— А почему бы и не нас? —решительно отрезал Барановский. —А вот я специально подработаю, чтобы нас послали. Хоть и не скромно, но разве мы не толковые?

— Жена моя и слушать не захочет.

— Уговорим.

— Попробуй.

— И попробую.

А через две недели Виктор и Вадим с Наташей уже прибыли в городской поселок Тихомск. В районном отделе культуры им очень обрадовались. Вадима назначили директором РДК, Наташу — заведующей абонементом районной библиотеки, а Виктор попросился художественным руководителем в самый отдаленный от райцентра сельский Дом культуры.

Как только вошел Сиротин в концертный зал РДК, он вновь во всех подробностях пережил тот день, когда год назад присутствовал здесь на смотре-конкурсе. Память воспроизвела образ Тамары Светловой таким, каким он возник тогда наяву перед взором Вадима. Какое то смутное чувство овладело им. Ни о чем больше не думалось. Только о том дне.

*А где б найти такую песню...*

запел вполголоса Сиротин.

Вечером собрались на репетицию вокалисты. Среди них была Тамара Светлова. Она теперь работала секретарь-машинисткой в РАЙПО и жила в городском поселке. Для Сиротина это оказалось приятной неожиданностью и вместе с тем пугало.

Тамара, как ему показалось, стала много красивее, чем была тогда, год назад. Ему стало не по себе. Он ощутил непреодолимое влечение к ней. Он не мог понять, что с ним творится. Не мог представить, чем все может кончиться. Одно он твердо знал: теперь он не сможет жить, не видя ее.

Шли дни за днями. Три раза в неделю Вадим видел Тамару на репетициях. В остальные дни старался хоть издали полюбоваться ею, когда она шла по улице на работу или с работы. Он любил ее. А она даже и не догадывалась. Он любил тайно. И умел скрывать свои чувства от постороннего взгляда. Никому и в голову не приходило, что такое возможно.

**(Продолжение в следующем выпуске).**

